ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 28 (127) 28 ліпеня - 3 жніўня 1995 г. Кошт 600 рублёў

НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НЕ БЫЛА ПРАДУГЛЕДЖАНА ПЛАНАМ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ - ст. 2.

ТАКСІСТЫ-ПРЫВАТНІКІ НАСТРОЕНЫ РАШУЧА - ст. 3.

ШТУЧНЫ ЧАРНОБЫЛЬ У ШЧУЧЫНЕ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## НА ФЕСТЫВАЛІ СЬПЯВАЛІ ТОЛЬКІ ПА-БЕЛАРУСКУ. НАВАТ НЕГРЫ

**Трэці эстрадны фестываль "Песьня над Нёманам", прымеркаваны да Дня незалежнасьці, стаўся добрай альтэрнатывай розных кшталту "базараў". У адрозьненьне ад іншых, празьмерна заідэалагізаваных імпрэзаў, сёлетні гарадзенскі фэст вызначаўся сваёй натуралёвасьцю. Бітма запоўненая зала драмтэатру - яскравае сьведчаньне паўнавартаснасьці сьвята беларускай песьні.**

Прысутных вітаў старшыня Гарадзенскага гарвыканкаму Генрых Крупенка, пасьля чаго распачалася конкурсная праграма.Чатырнаццаць прэтэндэнтаў (фіналу параярэднічаў адборачны тур) аспрэчвалі крыштальны Гран-пры, выраблены на Бярозаўскім шклозаводзе тамтэйшымі майстрамі гутнай справы. Удзельнікі дэманстравалі відавочныя здольнасьці, некаторым, праўда, яўна бракавала "школы". У гэтым сэнсе выгодна вылучаліся выхаванцы вучэльні мастацтваў, што займаюцца ў музычнай студыі "Забава". Сапраўдным адкрыцьцём фестывалю стала 16-гадовая Наташа Бахматовіч. Дзяўчынка з пяшчотным прозьвішчам зачаравала залю выключнай лірычнасьцю і непасрэднай абаяльнасьцю. Марына Пятрова прадставіла ўласныя творы на вершы Вольгі Іпатавай. Гучалі самыя разнастайныя песьні - ад класікі і шлягераў 80-х да зусім новых адметных кампазіцыяў. Калі Сяргей Квашнін выконваў "Краю мой родны! Як выкляты Богам ..." ажно мурашкі ішлі па целе. Кампазітар Аляксандр Чопчыц стварыў на словы вялікага Максіма своеасаблівы гімн часу. Рэфрэн "Браце! ці зможам грамадзскае гора? Браце! ці хваце нам сілы?!" здаецца, сягаў у самыя сэрцы.

У перапынку нейкі ветэран скардзіўся мне, што маўляў, ня той рэпертуар, згасла сапраўдная культура. Ды, відаць, гэтае меркаваньне было адзіным. Людзям ужо абрыдлі песьні пра партызанаў ды савецка-калгасныя, пpeўданародныя сьпевы на трасянцы. З аднолькавай цеплынёй слухачы прымалі і трагічна-патрыятычныя і гарэзьліва-забаўляльныя творы. На "ура" быў сустрэты каларытны Стэла Фідзі - ураджэнец Мадагаскару, які ажаніўся і атабарыўся ў Горадні. Ён таксама сьпяваў пабеларуску.

У другім аддзяленьні канцэрту вядучыя рэпрэзэнтавалі гасьцей і пераможцаў папярэдніх конкурсаў. Таямніча-ракавая "Ноч" Сьвятланы Яфімчык, нумары студыі сучаснага танцу "Тад", блюзавыя імправізацыі Алены Гаранкінай цудоўна аздобілі праграму. А ў гэты час канкурсанты з хваляваньнем і нецярпеньнем чакалі вердыкту журы. У выніку лаурэатам і уладальнікам галоўнага прыза (музычнага цэнтру фірмы "Філіпс") стаў Дзьмітрый Якубовіч - выпускнік вычылішча мастацтваў. Рэдкае супадзеньне, але прыз глядацкіх сімпатыяў дастаўся яму ж. Яшчэ трыма дыпломамі і каштоўнымі падарункамі былі адзначаны Сьвятлана Сколыш, Сяргей Квашнін (перамагчы яму перашкодзіла, мажліва, некаторая манернасьць) і Натальля Бахматовіч. Не засталіся па-за ўвагай арганізатараў і астатнія ўдзельнікі.



А аснoўнымі фундатарамі сталі прадстаўніцтвы "Дайновы" і "Кока-колы". Варта адзначыць таксама сьветлавое афармленьне дыска-клубу "Адам" і кветкі фірмы "Архідэя".

Беларуская эстрадная песьня выходзіць на якасна новы ўзровень. Гарадзенскі фестываль "Песьня над Нёманам" у гэтым сэнсе зьявіўся этапным. Пакуль нацыя сьпявае, яна жыве. Закончыць хочацца радкамі з Генадзя Бураўкіна:

"Божа адвядзі ад Беларусі
здраду, вераломства і вайну".

**Уладзімер ХІЛЬМАНОВІЧ**

## І Ў ВЫХАДНЫ МОЖНА РАБІЦЬ ГРОШЫ

**Нягледзячы на тое, што 28 ліпеня афіцыйна было аб'яўлена выхадным, у гэты дзень у Горадні прайшоў адзінаццаты адкрыты аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасьці. Выстаўлялася на ім дзевяць лотаў.**

Ужо стала традыцыяй, што ня ўсе прапануемыя на аўкцыёне ў Горадні аб'екты адразу знаходзяць пакупніка. Вось і на чарговым было прададзена чатыры. Але ж, як кажуць, справа ня ў колькасьці, а ў якасьці: прадажная цана склала 1 мільярд 800 мільёнаў рублёў, перавысіўшы пачатковую ў 2,1 разы. І калі двухпавярховы будынак на вуліцы Дзяржынскага, у якім на працягу двух гадоў павінна быць створана гандлёвая кропка, выстаўляўся за 644 мільёны рублёў, то атрымаў новага ўласніка за 740 мільёнаў.Яшчэ большай была прадажная цана ў параўнаньні са стартавай па іншых аб'ектах. Так права 10-гадовай арэнды магазіна гархарчгандлю на вуліцы Суворава было атрымана за 390 мільёнаў (пачатковая цана - 192 мільёны рублёў), а права арэнды памяшканьня на вуліцы Сацыялістычнай з умовай выкарыстаньня пад аб'ект бытавога абслугоўваньня - за 450 мільёнаў рублёў (пачатковая цана - 27 мільёнаў). А цана арэнды на дзесяцігоддзе крамы садавіны і гародніны на вуліцы Ўрублеўскага ўвогуле ўзрасла ў 146,7 разы ў параўнаньні са стартавай і склала 220 мільёнаў рублёў.

На жаль, і з трэцяга разу ніхто не захацеў атрымаць ва ўласнасьць будынак на вуліцы Васілька (Чапаева). Аўкцыяніст В.Шалкевіч неадназова нагадваў аб магчымасьці набыць яго па цане, на 10 працэнтаў меншай за пачатковую. А зьявіся хаця б адзін жадаючы набыць яго за 237,5 мільёнаў рублёў, і будынак ужо зьмяніў бы форму ўласнасьці.

**А.ДУК**

## ПАТРЫЯРХ ВЫКАНАЎ СВОЙ ДОЎГ

**Сапраўды гістарычная падзея адбылася ў жыцьці Гарадзеншчыны. Прынёманскі край упершыню наведаў Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. 23 ліпеня ён пабываў у Іўі, дзе быў цёпла сустрэты некалькімі тысячамі вернікаў і асьвяціў новы праваслаўны храм - Сьвята-Пакроўскую царкву.**



У гэты ж дзень тысячы паломнікаў з Беларусі, Польшчы, Летувы, гарадзенцаў убачылі на свае вочы Яго Сьвяцейшаства ў горадзе над Нёманам. У манастыры Раства Прасьвятое Багародзіцы Ўладыка адслужыў набажэнства і перадаў храму вобраз Уладзімірскай іконы Божай маці.

Наступны дзень Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II пачаў з ускладаньня вянка на гарадзкіх вайсковых могілках, дзе адслужыў малебен у памяць аб загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Ля Сьвята-Пакроўскага сабора адбылася сустрэча Яго Сьвяцейшаства з вернікамі, а ў храме прайшла Боская літургія, каб Бог ахоўваў беларускі народ "ад ліха, журбы, выпрабаваньняў". Патрыярх таксама блаславіў будаўніцтва хрысьцільнага храма ў гонар Сьвятой Роўнаапостальнай вялікай княгіні Вольгі, і ў яго сьцяну была закладзена капсула з Граматай уладыкі Алексія II.

Затым Яго Сьвяцейшаства і Мітрапаліт Менскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт былі прыняты старшынёй аблвыканкаму сп. А.Дубко.

Вечарам гэтага ж дня ў абласным драмтэатры адбылася сустрэча Сьвяцейшага Патрыярха з прадстаўнікамі грамадзкасьці. На жаль, ня ўсе жадаючы змаглі трапіць туды. Асабліва былі пакрыўджаны вернікі, якія атрымалі запрашальныя білеты на сустрэчу з Патрыярхам ад сьвятароў у сваіх прыходах і толькі, прыйшоўшы на яе, даведаліся, што тыя, якія ў іх ёсьць, - несапраўдныя, а патрэбны іншыя. Суцяшэньнем для іх стала магчымасьць паслухаць трансляцыю з залы тэатра.

Заканьчэньне на 3-яй старонцы.

## ЧАРГОВАЯ «ФІРМЕННАЯ»

Адкрыцьцё фірменных крамаў стала звычайнай зьявай, і гэтым нікога ня зьдзівіш. Але ж, калі іншыя прадпрыемствы ствараюць іх, каб рэалізоўваць толькі сваю прадукцыю, то Гарадзенскі завод жалезабетонных канструкцый, адкрыўшы ў абласным цэнтры сваю краму, мае і іншыя мэты.

На сёньняшні дзень на складах прадпрыемства назьбіралася прадукцыі больш, чым на паўтара мільярда рублёў. Таму, каб прыцягнуць патэнцыяльных пакупнікоў, у краме вырашылі прадаваць і тавары, атрыманыя па бартэру: аўтамагнітолы, халадзільнікі, веласіпеды, цацкі і іншае.

Адкрыцьцё фірменнай крамы мае на мэце пакпапацыца і аб работніках завода. Ім зараз, у прыватнасьці, дадзена магчымасьць набыць у крэдыт тэлевізары.

**А.ДУК**

## У ШЫХТ, ДРУЖЫНЫ!

**У бліжэйшым часе ў Лунінцы аднавяць сваю працу добраахвотныя народныя дружыны.**

Відаць, крымінальная абстаноўка да таго дапякла жыхароў горада, што на просьбу мясцовых уладаў адразу адгукнуліся калектывы некалькіх прадпрыемстваў і вайсковай часткі. Апошнае абнадзейвае: магчыма, вайскоўцы ў "дазор" прыхопяць і зброю

**Любамір МАКДУСЬ**

## «БАЦЬКАЎШЧЫНА» Ў ДАНІІ

**Па запрашэньні сьвятара пратэстанцкай царквы г. Колдзінг (Данія) - спадара Эрыха Ланкера, гарадзенскі хор духоўнай беларускай музыкі "Бацькаўшчына" наведае гэтую дзяржаву ў жніўні.**

Гарадзенскія сьпевакі прабудуць на гастролях тыдзень. За гэты час яны дадуць шэраг канцэртаў у розных гарадах Каралеўства Данія і закончаць гастролі вялікім галаканцэртам хору "Бацькаўшчына" падчас прэзентацыі новага мальнага дому пратэстанскай грамады ў Колдзінгу.

**Г.А.**

## ВІНШУЕМ!

23 ліпеня ў магілёўскім касьцёле сьвятога Станіслава адбылося вянчаньне лідэра Беларускага Народнага Фронту Зянона Пазьняка з сп. Галінай Вашчанка.

"Пагоня" шчыра віншуе новую сям'ю!







# ДЗЕНЬ ЗАЛЕЖНАСЬЦІ

**Беларускія ўлады працягваюць шакіраваць сваіх грамадзянаў і сусьветную супольнасьць сваімі “патрыятычнымі” паводзінамі ў дні вялікіх нацыянальных сьвятаў. Так, толькі ў Горадні мясцовае кіраўніцтва дало дазвол грамадзкасьці адсьвяткаваць 585-я ўгодкі з дня перамогі пад Грунвальдам. У астатніх гарадах “вертыкаль” не пажадала мець справы з “нацыяналістамі”, нягледзячы на тое, што беларусы імкнуліся адзначыць сумесную з іншымі славянамі і летувісамі перамогу над агульным ворагам.Безумоўна, пад забаронай будзе і сьвяткаваньне перамогі пад Воршай. Але калі пасіўныя, а часьцей за ўсё, і агрэсіўныя паводзіны ўладаў у дачыненьні да названых вышэй сьвятаў, яшчэ паддаюцца тлумачэньню, то сёлетняе стаўленьне мясцовых выканкамаў да сьвяткаваньня Дня незалежнасьці інакш, чым вяршыняй абсурду назваць нельга. Асабліва вызначыліся ў гэтым сэнсе сталічныя чыноўнікі, забараніўшыя правядзеньне сьвяточнага шэсьця ў дзень дзяржаўнага сьвята.**

Як паведаміла “Экспрэс-Хроніка”, “27 ліпеня на пляцы Незалежнасьці ў Менску сабраліся каля 800 чалавек. Супрацоўнікі міліцыі ачапілі плошчу і перакрылі выхады з бліжэйшай станцыі метро. Яны затрымалі трох удзельнікаў мерапрыемстваў, прыняўшы іх за арганізатараў несанкцыянаванай акцыі. Міліцыя таксама затрымала некалькі чалавек у іншых частках горада. Сярод затрыманых на плошчы апынуўся дэпутат менскага гарадзкога савету Уладзімер Несьцер, які паведаміў карэспандэнту "Экспрэс-Хронікі", што супрацоўнікі міліцыі яго зьбілі...".

Аказваецца, што такая акцыя была не прадугледжана планам сьвяточных мерапрыемстваў. Калі гэтак пойдзе і далей, то і навагоднія гуляньні будуць жорстка рэгламентавацца рознымі пастановамі, каб народ, не дай Бог, не сьвяткаваў, як яму прыйдзе ў галаву, тыя дні, якія ён прывык лічыць сьвяточнымі.

Чаго баяцца сталічныя бюракраты? Блізкасьці ды пільнага вока прэзідэнта, якому нават бел-чырвона-белыя балёны ў руках дзіцяці могуць падацца праявай нацыяналізму, а прамова па-беларуску антырускімі настроямі? Між тым, сьвяткаваньне Дня незалежнасьці магло б саслужыць добрую службу Аляксандру Лукашэнку, які часта на словах дбае пра ўсталяваньне грамадзянскага міру ў рэспубліцы. Тут варта прыгадаць тыя часы, калі яшчэ вяліся дыскусіі, у які ж дзень адзначаць Дзень незалежнасьці - 25 сакавіка (у гэты дзень у 1918 годзе была абвешчаная БНР) ці 27 ліпеня, калі на сьвет зьявілася ў 1990 годзе “Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі”. Вярхоўны Савет тады ў якасьці дзяржаўнага сьвята зацьвердзіў дзень 27 ліпеня, але да арганізацый сьвяточных мерапрыемтваў у першыя тры гадавіны спрычыняліся толькі ўлады, ладзячы фальклёрныя канцэрты і г.д., бо сьвядомыя беларусы, выдатна ўсьведамляючы фармальны характар Дэкларацыі 27 ліпеня, па-ранейшаму ўшаноўвалі незалежнасьць краіны 25 сакавіка. Сітуацыя пачала зьмяняцца ў апошнія два гады, калі ўсё больш і больш беларусаў пачалі разумець каштоўнасьць суверэнітэту, яго значнасьць для нашага народа. Многія з гэтых людзей, “дзякуючы” намаганьням ідэолагаў і гісторыкаў савецкага перыяду, яшчэ не усьвядомілі сябе прадаўжальнікамі справы адраджэнцаў часоў БНР і таму схільныя лічыць пачаткам стварэньня незалежнай беларускай дзяржавы падзеі лета 1990 года. Зьмянілася стаўленьне да дня 27 ліпеня і ў значнай колькасьці тых беларусаў, якія скептычна ставіліся да адзначэньня Дня незалежнасьці менавіта ў гэты дзень. Не, гэтыя людзі па-ранейшаму сьвяткуюць 25 сакавіка і вераць, што менавіта гэты дзень з цягам часу стане чырвоным у календары. Але, разам з тым, яны разумеюць, што суверэнітэт Беларусі за гэтыя 5 гадоў перастаў насіць фармальны характар, што мы жывем зараз не ў БССР, а ў самастойнай Рэспубліцы Беларусь. Таму 27 ліпеня магло б стаць у нейкім сэнсе Днём нацыянальнага адзінства, пра якое часам так клапоціцца прэзідэнт. Ды толькі ёсьць тут адзін нюанс, які, напэўна, і палохае ўсе “вертыкалі” і “сьпіралі” разам узятыя. Як ні круці, нацыянальнае адзінства можа існаваць толькі пад нацыянальнымі сімваламі: бел-чырвона-белым сьцягам і “Пагоняй”. Сьвяткаваць Дзень незалежнасьці пад прэзідэнцкім чырвона-зялёным сьцягам па сваёй волі не выйшаў ніхто. Тыя, хто падтрымаў прапанову Лукашэнкі аб зьмене дзяржаўнай сімволікі ненавідзяць самую ідэю беларускай дзяржаўнасьці. Гэтыя людзі зацьвердзілі б на рэферэндуме любы сьцяг, абы на зло “нацыяналістам”. Менавіта таму, напэўна, улады гэтак адмоўна прарэагавалі на памкненьні сумленных грамадзянаў адзначыць найвялікшае дзяржаўнае сьвята, якое, вельмі верагодна, ужо ў наступным годзе будзе аб’яўлена прэзідэнтам “Днём траўра па разваленаму вялікаму Саюзу братніх народаў” ці забаронена ўвогуле. Ды толькі ня ўсё залежыць ад волі правадыроў, бо ў кожнага нармальнага чалавека адчуваньне сьвята існуе перш за ўсё ў душы.

А для вар’ята, як вядома, няма сьвята.

**Вінцук МАЛЬСКІ**

## «УРАЧЫСТЫ» СХОД, ЯКОГА МАГЛО Б НЯ БЫЦЬ

**Напярэдадні Дня незалежнасьці ў Доме афіцэраў Горадні прайшоў “урачысты сход грамадзкасьці горада”. Ён быў вельмі падобны на ўсе ранейшыя “урачыстыя” і праводзіўся, відаць, толькі дзеля “галачкі”. Ізноў быў прэзідыум у складзе грамадзянскіх і вайсковых начальнікаў, “ганаровых”, зала, амаль што на чвэрць запоўненая салдатамі.**

Напэўна, адзінае, чым гэты сход адрозьніваўся ад астатніх - працягласьць - скончыўся ён літаральна за паўгадзіны і тым, што прагучала фактычна адно выступленьне. Належала яно намесьніку старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму М.Калацэю. Спачатку ён зрабіў экскурс у гісторыю, сказаўшы пра тое, якія самастойныя утварэньні існавалі на тэрыторыі Беларусі; назваў выбраных славутых людзей, што жылі на ёй; згадаў Вялікае Княства Літоўскае, якое ўзнікла “пад пагрозай мангола-татарскага нашэсьця”; Грунвальдзкую бітву, у якой “беларускія палкі змагаліся разам з рускімі і польскімі”, як беларусы пасьля Люблінскай вуніі на працягу дзьвюх стагоддзяў пакутавалі ад прыгнёту польскіх феадалаў; сумесную барацьбу з іншымі народамі супраць царызму і стварэньне БССР, падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Потым перайшоў на сучаснасьць.

М.Калацэй нагадаў, што зараз “асабліва неабходна адзінства грамадства, дзяржавы, грамадзянская згода”, але “узьнікшыя на хвалі суверэнітэту і незалежнасьці розныя партыі і рухі, часьцей неразборлівыя ў выбарах форм і сродках у дасягненьні сваіх праграмных мэтаў, не прапануюць канкрэтных шляхоў выйсьця з эканамічнага крызісу”. Пашкадаваў ён і пра тое, што “нам не ўдалося да канца пераадолець стэрэатыпы старога мысьленьня, усьвядоміць, што мы хаця і ўсе розныя, але ў нас ёсьць адна зямля, адна дзяржава, імя якой Беларусь”, што “у нашай дзяржаве, на жаль, не зацьвердзілася верхавенства закона, адсюль той прававы і крымінальны "беспредел", злоўжываньне службовым становішчам". Асабліва ён падкрэсьліў, маўляў, “прыйшоў час зразумець, што незалежнасьць у сэнсе палітычнага волевыяўленьня, незалежнасьць, як магчымасьць і права на лепшае жыцьцё не прыходзіць з яе абвяшчэньнем”.

Як высьветлілася, “прэзідэнт, урад, мясцовыя органы ўлады прымаюць усе меры дзеля таго, каб выйсьці з эканамічнага крызісу, захаваць стабільнасьць у грамадстве, забясьпечыць сацыяльны мір і грамадзянскую згоду, не адмаўляючыся ў той жа час ад нашых ідэалаў нацыянальнага адраджэньня, "і асабліва шмат пазітыўнага ў гэтым зроблена за мінулы год, калі Беларусь адстойвала сваё права быць незалежнай краінай у нялёгкай барацьбе за стабілізацыю эканомікі і адбылося зьніжэньне інфляцыі, дэфіцыта бюджэту, стабілізацыя цэн". Акрамя таго, складанейшых праблем застаецца шмат, нават вельмі шмат, але галоўнае, што і прэзідэнт і ўрад дзень пры дні стараюцца іх вырашыць".

Не забыў М.Калацэй і пра “вынікі першага паўгоддзя”, якія сьведчаць “што ў вобласьці эканомікі назіраюцца тэндэнцыі росту аб’ёмаў вытворчасьці у розных сьферах, большасьць прадпрыемстваў выпускае канкурэнтназдольную прадукцыю, павялічвае вытворчасьць тавараў народнага спажываньня”(хаця жыцьцё сьведчыць пра адваротнае - С.Р.), а “працаўнікі сельскай гаспадаркі прыступілі да уборкі зерневых. У засекі Радзімы паступілі першыя тоны хлеба новага ўраджаю”, але, канешне ж, казаць аб якасным пераломе ў эканоміцы пакуль рана".

М.Калацэй нагадаў і “аб неабходнасьці ўзмацненьня ўвагі да маладой зьмены”, пашкадаваў пра страту вялізнага вопыту маральнага і патрыятычнага выхаваньня", усклаў “пэўныя надзеі” і на царкву, на ўсе дзейныя рэлігійныя канфесіі", бо “яны шмат робяць па захаваньню у грамадзтве маральнасьці і духоўнасьці”.

Завяршыў свой выступ М.Калацэй словамі: “Наша мэта зрабіць Беларусь квітнеючай, каб яе ўсе ведалі, каб кожны грамадзянін адчуваў сябе свабодным і годным высокага званьня чалавека. Давайце будзем больш рашуча і ўпэўнена ісьці да гэтай мэты. Перакананы, што аб’яднаўшы намаганьні, мы дасягнем мэты. Са сьвятам Вас, шаноўныя сябры, з Днём незалежнасьці!”. Далучаюся.

**С.РЭЎКА**

## ДУРНЮ ЗРАЗУМЕЛА, ШТО НАС ПРАДАЮЦЬ РАСЕІ

**Складаная была беларуская гісторыя. Залітая крывёй, потам і сьлязьмі нашых продкаў. Колькі спроб дэнацыяналізацыі перажыў беларускі народ. Выстаялі, захаваліся, дзякуючы чыстаце і прастаце сваёй, гасьціннасьці.**

Расейска-савецкі перыяд нашай гісторыі прайшоў з поўным выключэньнем беларускай мовы з дзяржаўнага карыстаньня. Гарады сталі рускамоўнымі, а ў вёсках практычна зьнікла з ужываньня беларуская мова, замененая руска-беларускай трасянкай.

Беларус мала таго, што сам перастаў размаўляць на роднай мове, але і адмаўляецца дзяцей навучаць ёй. Абыякавасьць - вось тая асаблівасьць беларускай нацыі сёньня. Толькі ў нашай краіне можа ўзьнікнуць ідэя наданьня статуса дзяржаўнай мовы мове другога народа.

У гісторыі ёсьць прыклады зьліцьця нацый ці растварэньне адной у масе другой. Няўжо і беларус стане фальклорным вобразам, а Беларусь - геаграфічнай кропкай? Няўжо нацыянальнае адраджэньне будзе растаптана, не пасьпеўшы ўзысьці?

Бо хто яшчэ зацікаўлены ў страце Беларусьсю незалежнасьці, як не Расея? Зразумела, у якасьці падачкі мы ня ўвойдзем у афіцыйны склад расейскай федэрацыі, але фармальна, маючы міжнародны статус,будзем выконваць ролю палітычнай марыянеткі.

**Янка ТАТАРЫН.**

## АДСТАЎКА ЧЫГІРА?

З колаў блізкіх да прэзідэнта Беларусі стала вядома, што на бліжэйшы час запланавана адстаўка прэм’ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра. На яго месца Аляксандр Рыгоравіч плануе прызначыць сёньняшняга міністра сельскай гаспадаркі спадара Лявонава.

**Язэп АБУХОВІЧ**

# ПАКУЛЬ САМІ НЯ БУДЗЕМ ГАСПАДАРЫЦЬ

**Незалежнасьць, воля, самастойнасьць... Для любой краіны і ў глыбокай старажытнасьці, і ў сучаснай цывілізацыі гэтыя паняцьці зьяўляюцца сэнсам існаваньня, выратавальным ад скону паветрам, трывалай апорай у сучасным жыцьці і моцнай надзеяй на гістарычны працяг у будучыні.**

І кожны нармальны чалавек, розум, сумленьне якога не спаралізавала рабства, ніколі добраахвотна ня згодзіцца прадаць сябе і сваю зямлю нават за незьлічонае багацьце самаму спрыяльнаму суседу.

І толькі большасьць дзяцей нашай роднай Маці-Беларусі і па сёньняшні дзень, праз пяць гадоў пасьля абвяшчаньня ў Беларуеі незалежнасьці, ня могуць прыйсьці да асэнсаваньня таго, што менавіта незалежнасьць, самастойнае гаспадарства ў сваёй хаце і сталі б выратавальнымі промнямі, якія б нарэшце вывелі нас з цемры і пакутаў жабрацтва да сапраўды лепшай долі.

Савецкая імперыя, па якой так плачуць няздольныя жыць распрэжанымі, бяз лейцаў, бяз уласных думак і сумленьня многія беларусы, давала самай паслухмянай сваёй калоніі - БССР адно гарантаванае права - права цярпець і маўчаць, а калі гаварыць, то толькі думкамі і словамі Масквы, імперыі і “правадыроў” - паганятых у “сьветлае”... рабства. Імперыі, збудаванай на моры крыві, нянавісьці, па законах д’ябла, патрэбна было плаціць своеасаблівую даніну - лепшыя плады працы цягавітага беларуса бясконца ішлі ў Масковію. І на памяць тут прыходзяць прарочыя радкі няўміручага Янкі Купалы:

*А хтось далёкі, ці хтось, можа, блізкі*
*Засеў за наш бяседны, сытны стол*
*І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,*
*А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.*

Няцяжка ўявіць што калі б тады, у 1918 годзе, мы захавалі сваю незалежнасьць, то сёньня з такім працавітым, спакойным і таленавітым народам мы маглі б жыць як краіны Заходняй Эўропы. Незалежнасьць 1990 года, вядома, стала і сэнсам жыцьця, і заранкай да сапраўды сьветлай долі, калі б не выплаціла Беларусь Савецкай імперыі і камуністычнай сістэме трэцюю і, як высьвятляецца, адну з самых балюча адчувальных частак вялікай даніны - даніну духоўную, аддаўшы за 70 гадоў на пагібель сваю нацыянальную сьвядомасьць, сваю мову, свой нацыянальны гонар, а прыняўшы ўзамен законы д’ябла і камуністычнага рабства, пабудаваныя на нянавісьці і вечнай хлусьні.

Незалежнасьць 1990 года адкрывала рэальныя шляхі прыходу да новай, сапраўды моцнай, дэмакратычнай, багатай Беларусі. Адно камуністычная большасьць парламанту Беларусі ня толькі перакрэсьліла гэтыя шляхі, але і ў сваёй звыклай хлусьні перад народам дайшла да абсурду: віну за жабрацкае становішча ўсклала на атрыманую незалежнасьць. Ну, а сам народ, які толькі-толькі праціраў вочы ад рабскага сну, паступіў так, як засвоіў за гады працы на ўсе імперыі:

*Не ішоў з адкрытымі вачыма*
*У сьвет і сьцежкі не прастаў,*
*А ўсёй магчымасьці магчымай*
*Таптаў сьляды, сябе таптаў.*

Як бы не зацямнялі сьвяты прамень “незалежнасьці” сёньняшнія яе магільшчыкі, ажыўляючае сьвятло гэтага промня дайшло-такі да многіх беларусаў. І сёньня нас ужо ня жменька, а больш, чым мільён. Дзякуючы незалежнасьці, дзякуючы абуджальнай і прароцкай сіле БНФ “Адраджэньне”, для нас Беларусь, мова беларуская, нацыянальнае адраджэньне сталі такімі ж бясцэннымі вартасьцямі, як само жыцьцё. За гады незалежнасьці нашы дзеці, моладзь ужо пасьпелі ўдыхнуць сьвежае паветра волі, беларускасьці, праўды. Менавіта беларускі дух знайшоў месца ў іх думах, а спрадвечныя беларускія сьвятыні - “Пагоня” і бел-чырвона-белы сьцяг, якія вярнуліся з незалежнасьцю, ужо адбіліся ў іх абуджаных вачах. І можна спадзявацца, што такія вочы не азірнуцца назад, на страшны прывід камунізму. Застаўшыся для нас сімваламі нацыянальнага гонару, “Пагоня” і нацыянальны сьцяг клічуць не падаць духам, не разгубіцца ад удараў дзікунскага рэферэндуму, ад вынікаў парламанцкіх выбараў, клічуць захаваць незалежнасьць, без якой чакае нас, як нацыю, сьмерць. Магільшчыкі Беларусі не павінны цешыцца: абуджаныя беларусы ня стануць ізноў “савецікусамі”. Вольная дэмакратычная Беларусь усё роўна вернецца. Калі ўжо не для нас, людзей сярэдняга і больш сталага ўзросту, то для нашых дзяцей, унукаў. Вернецца з нашымі сьвятынямі, з дзяржаўнасьцю толькі беларускай мовы, калі цяпер кожны сьвядомы беларус ня здрадзіць маці - Радзіме, нашаму Адраджэньню. І абраньне беларускай мовы навучаньня для сваіх дзяцей, і рашучае адстойваньне беларускіх поглядаў, і растлумачваньне людзям праўды, і цьвёрдае перакананьне ў тым, што будзе жыць Беларусь, і малітвы да Бога ў нашых сьвятынях за захаваньне Бацькаўшчыны - усё гэта замацуецца ў трывалы падмурак будучыні - сапраўды незалежнай вольнай, шчасьлівай Беларусі.

Прыслухаемся жа ўсе: і гарачыя прыхільнікі незалежнасьці Беларусі, і тыя, хто яшчэ стаіць на ростанях, да Купальскага прарочага клічу:

*- Пакуль ты сам ня будзеш гаспадарыць*
*Не разьвітаешся з жабрацкай калітой.*

**Галіна ТАЎЛУЙ,**

# ГРАМАДЗТВА

## ТАКСІСТЫ-ПРЫВАТНІКІ НАСТРОЕНЫ РАШУЧА

**Наша газета ў мінулым нумары пісала аб пікетаваньні 18 ліпеня гарадзенскімі таксістамі-прыватнікамі будынка аблвыканкаму.**

Нагадаем, што кіроўцаў не задаволіла рашэньне абласнога Савету "Аб зацьверджаньні ставак падаходнага падатку з грамадзян у цьвёрдых сумах для асобных відаў прадпрымальніцкай дзейнасьці, ажыцьцяўляемай без утварэньня юрыдычнай асобы".Ім, у прыватнасьці, прадугледжваецца, што ўладальнікі асабістых легкавых аўтамабіляў, якія займаюцца транспартным абслугоўваньнем грамадзян па перавозцы пасажыраў і грузаў у Горадні і Гарадзенскім раёне, павінны плаціць штомесяц фіксаваны падаходны падатак у памеры пяці мінімальных зарплат (на сёньняшні дзень - 300 тысяч рублеў). Па словах таксістаў, яны ня ў стане такую суму плаціць, бо штодзённая выручка кожнага з іх складае 40-70 тысяч рублёў). І, хаця начальнік абласной падаткавай інсьпекцыі М.Фірулёў супакоіў дэлегатаў ад таксістаў, у якасьці часовага вырашэньня пытаньня (да рашэньня сесіяй абласнога Савету), прапанаваўшы заплаціць падатак у памеры 120 тысяч рублёў за месяц, гэтым усё ня скончылася.

Як паведаміў, завітаўшы ў рэдакцыю "Пагоні", таксіст А., раённыя падатковыя інсьпекцыі па-ранейшаму патрабуюць з яго калег заплаціць да 15 жніўня за права займацца прыватным возьніцтвам 900 тысяч рублёў за трэці квартал. "Палёгка" прадугледжана толькі для пеньсіянераў, якія дасягнулі 60-гадовага ўзросту і тых, што маюць сталае месца працы.

Лічачы, што іх падманулі, таксісты накіравалі 21 ліпеня ў абласную падатковую інсьпекцыю чарговую дэлегацыю ў складзе трох чалавек. Там адбылася сустрэча з яе начальнікам М.Фірулёвым. Ён сказаў таксістам, што ня можа вырашыць іх пытаньне. Было прапанавана, каб тыя, хто ня ў стане плаціць вызначаны памер падатку, пісалі на імя старшынь райвыканкамаў заявы з указаньнем аб'ектыўных прычын, выключаючых неабходнасьць яго зьніжэньня. І такімі падставамі могуць быць, напрыклад, патрэба ў зборы сродкаў для паляпшэньня жыльлёвых умоў ці на лекаваньне блізкіх сваякоў, альбо, шмат дзяцей ці непрацуючая жонка.

Асноўная частка гарадзенскіх таксістаў-прыватнікаў лічыць, што рашэньне дазволіць адным плаціць падатак роўны 120 тысячам, а з астатніх патрабаваць па-ранейшаму 300 тысяч, прынята з мэтай раскалоць іх. Таму яны не зьбіраюцца пакуль нічога плаціць, настойваючы на задавальненьні аблсаветам іх прапановы. Настроены яны рашуча і, ў крайнім выпадку, гатовы здаць пасьведчаньні аб рэгістрацыі на права займацца прыватным возьніцтвам і працаваць пад "чорным сьцягам", гэта значыць, ня плоцячы ніякіх падаткаў. Невядома, хто ад гэтага выйграе, але бюджэт дакладна прайграе. Бо, калі раней туды паступала 12 працэнтаў ад даходу прыватных таксістаў, то ў "чорным" выпадку ня трапіць нічога.

**Д.АЛЕГАЎ**

## ПАТРЫЯРХ ВЫКАНАЎ СВОЙ ДОЎГ

**Заканьчэньне. Пачатак на 1-ай старонцы.**

Падзяку за візіт і дзейнасьць Яго Сьвятейшаству выказалі старшыня аблвыканкаму А.Дубко, прадстаўнік маладых прыхаджан М.Генералаў, дзеці з нядзельнай школы манастыра Раства Прасьвятой Багародзіцы, Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. А Гарадзенскі кардынал рымакаталіцкай царквы А.Кашкевіч выказаў спадзяваньне, што праваслаўныя і каталіцкія цэрквы будуць і надалей



разьвіваць адносіны, супрацоўнічаць у клопаце аб душах людзей і станаўленьні дэмакратычнай Беларусі, што краіну наведае Рымскі папа Ян Павел ІІ і што вернікі годна сустрэнуць двухтысячны юбілей Раства Хрыстова.

З вялікай прамовай перад прысутнымі выступіў Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій ІІ. Ён нагадаў пра годы ліхалецьця, калі вынішчалася вера ў Бога, разбураліся храмы, калі і вернікі, і сьвятары падвяргаліся рэпрэсіям. Але ўсё стала на свае месцы. Зараз адбываецца адраджэньне праваслаўя. І Патрыярх за пяць гадоў наведаў сорак чатыры епархіі, каб ведаць, як праходзіць гэты працэс. Ён прызнаўся, што часам нялёгка зьдзяйсьняць паездкі, але сустрэчы з вернікамі дадаюць сіл.

Яго Сьвяцейшаства паведаміў, што наведаў Беларусь, бо лічыў сваім абавязкам зрабіць гэта ў 50-ю гадавіну Вялікай Перамогі, таму што беларускі народ больш за астатнія пацярпеў у гады вайны, і пакланіцца магілам загінуўшых, памаліцца за іх, сустрэцца з іх нашчадкамі. Патрыярх падзякаваў за цёплы прыём на зямлі Прынёманскага краю і сказаў, што назаўсёды захавае ў сваім сэрцы ўражаньне аб гэтым.

Ён таксама пажадаў росквіту, здароўя, дабрабыту беларускаму народу, і каб людзі розных нацыянальнасьцяў, канфесій па-ранейшаму жылі ў згодзе і разам дзейнічалі для пераадоленьня цяжкасьцяў.

Затым у драмтэатры адбыўся канцэрт духоўнай музыкі.

Завяршыўся візіт на Гарадзеншчыну Сьвятейшага Патрыярха 25 ліпеня наведаньнем Каложскай царквы і набажэнствам у ёй.

**А.ДУК**

**Фатаграфаваў І.УЛАДАСЕВІЧ.**

## КАЛІ МАЙСТЭРНЯ Ў АСАБІСТЫХ РУКАХ



**Каля трох дзесяцігоддзяў Леанід Станіслававіч Багушэўскі працаваў майстрам па рамонту электрабрытваў у складзе рамбыттэхнікі. Праца ладзілася, а галоўнае, што кліенты былі задаволены, бо электрабрытвы рамантаваліся на сумленьне.**

- Шмат гадоў, - гаворыць пеньсіянер А.П.Трэцякоў, жыхар Горадні, - карыстаюся паслугамі Леаніда Станіслававіча і заўжды задаволены ягонай працай. Працяглы час я працаваў у ворганах кантроля, правяраў многа скаргаў, але на абслугоўваньне Л.С.Багушэўскага ніколі нараканьняў не было.

Усё складвалася добра ў працы Л.С.Багушэўскага, але... Майстэрня стала нерэнтабельнай і кіраўнікі рамбыттэхнікі вырашылі яе зачыніць.

- А як з рамонтам брытваў? - спытаў Леанід Станіслававіч.

- Дзе хочуць, там хай і рамантуюць, - пачуў у адказ.

Не хацелася майстру-ветэрану разьвітвацца з любімай справай, тым больш пакідаць людзей без бытавога абслугоўваньня. І ён вырашыў узяць майстэрню ў свае рукі. Ужо год, як абслугоўвае насельніцтва на падставе індывідуальнай працоўнай дзейнасьці. І які вынік? Людзі, як і раней, задаволены, рамантуюцца брытвы з гарантыяй, а галоўнае - майстэрня стала рэнтабельнай.

**Ільля БАРЫСАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: Л.С.БАГУШЭЎСКІ.**

## ДУХ БЕЛАРУСКАСЬЦІ ПЕРАМОГ ДУБІНКІ

**Разрэкламаваны эстрадны фестываль "Песьня над Нёманам", які адбыўся ў гарадзенскім аблдрамтэатры якраз у "Дзень незалежнасьці" спакусіў гарадзенцаў і гасьцей горада "бясплатным уваходам" на канцэрт. Арганізатары імпрэзы пэўна й не чакалі, што людзей зьбяруцца больш, чым трэба".**

Калі я наблізіўся да тэатра, заўважыў вялікую групу незадаволеных аматараў айчыннай песьні, якія безвынікова дамагаліся ад вахцёркі, каб тая прапусьціла іх на канцэрт. За зачыненымі шклянымі дзьвярыма пасьміхаліся мажныя "ахоўнікі парадку" з дубінкамі. Дарэчы, за будынкам тэатра, "на ўсялякі выпадак" знаходзіліся больш "важкія" сілы міліцыі, чакаючы, напэўна, правакацый з боку гэтых самых "БНФаўцаў-нацыяналістаў". Але чаканьне было дарэмным.

Тым часам натоўп жадаючых патрапіць на фестываль павялічваўся і не супакойваўся. Міліцыя ўжыць сілу супраць бабулек, жанчын і дзяцей не наважылася. А вахцёрка, параіўшыся з адмінстрацыяй, урэшце саступіла й адчыніла дзьверы. "Мы культурныя людзі, а ня быдла, нас няма чаго ахоўваць!". "Ну,ей Богу, як у канцлагеры!", "Мы прыйшлі ў тэатр,а не на базар!" - раздаваліся галасы пакрыўджаных прыхільнікаў беларускай эстрады. Такім чынам канфлікт быў нейтралізаваны, і публіка задаволіла свае духоўныя патрэбы.

Мяне, як гледача, усьцешыла акрамя духа беларускасьці, які ўладарыў у перапоўненай зале, прысутнасьць сапраўдных патрыётаў, якія віталі выканаўцаў бел-чырвона-белым сьцягамі, не зважаючы на пільны нагляд міліцыянтаў.

**Сакрат ГАРАДЗЕНСКІ**

## ГРУНВАЛЬД... ДОБРА ХОЦЬ ВЕДАЮЦЬ НАЗВУ...

За апошнія пяць гадоў помнікам берасьцейцам - удзельнікам Грунвальдзкай бітвы мясцовага мастака Аляксея Паўлючука, які калісьці перамог у конкурсе, пацікавіўся толькі адзіны чалавек - карэспандэнт газеты "Вечерний Брест". Дакладней, нават ня помнікам, а ягоным праектам, які па сёньняшні дзень стаіць на шафе мастака, закручаны ў поліэтылен. На ўвасабленьне праекта няма пакуль ні сродкаў, ні, відаць, асаблівага жаданьня ў мясцовых уладаў. Сапраўды, які вам яшчэ Грунвальд - трэба ж сьцягі ды гербы мяняць - а гэта пацягне не адзін мільён рублеў...

**ЯГОРЫК**

## БУДУЧЫ МЕДЫК ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ І МОВЫ

**Упершыню абітурыенты, якія паступалі ў Гарадзенскі дзяржаўны медыцынскі інстытут на агульных падставах, у якасьці першага ўступнага экзамена пісалі дыктоўку па беларускай і рускай мовах. Але ж далёка ня ўсе пасьпяхова справіліся з заданьнем.**

Як паведаміў прарэктар па навуцы ГДМІ У.Васільеў, з 148 чалавек, якія пісалі дыктоўку (26 - па рускай мове), каля 70 працэнтаў атрымалі нездавальняючыя адзнакі. З чым гэта зьвязана? Ці то з тым, што абітурыенты не надалі належнай увагі мовам падчас падрыхтоўкі да экзаменаў, ці то з тым, што іх дрэнна вучылі ў школе, сказаць цяжка. Але ж з 218 чалавек, якія падалі заявы на паступленьне (104 - медалісты), на 125 месцаў студэнтаў першага курса лячэбнага факультэта (65 - мэтавы набор з Берасьцейскай, Гомельскай і Магілёўскай вобласьцей, 60 - конкурс) перад апошнім уступным экзаменам па фізіцы засталося толькі 128.

Яшчэ горшая сітуацыя з мэтавым наборам на медыка-псіхалагічны факультэт і аддзяленьне сястрынскай справы (вышэйшая адукацыя). На першы прадугледжаны прыём 50 чалавек, аднак паступіць на яго пажадала толькі 45, і 28 з іх "адсеяліся". І толькі 4 абітурыенты з 15 пры наборы ў 30 чалавек вытрымалі ўсе выпрабаваньні пры паступленьні на сястрынскі факультэт. Таму кіраўніцтва медінстытута вымушана ўпершыню ў гісторыі навучальнай установы аб'явіць ў жніўні дадатковы набор. І хаця, на думку І.Васільева, конкурс абавязкова будзе, а на медыка-псіхалагічным нават 3-4 чалавекі, ён прызнаў, што штогод менш і менш падаецца заяваў на паступленьне, што зьвязана са зьмяншэньнем колькасьці школьнікаў, падзеньнем прэстыжу прафесіі ўрача.

Таксама ўпершыню за ходам паступленьня ў ГДМІ назіралі работнікі прэзідэнцкай адміністрацыі. Яны прысутнічалі на экзаменах, пры шыфроўцы работ, апячатваньні і ўскрыцці сейфаў. Запрошаныя настаўнікі сярэдніх школ правяралі работы пасьля праверкі выкладчыкамі інстытута.

І.Васільеў прызнаў, што нявольна адчувалася "псіхалагічная напружанасьць, але канфліктаў не было, хаця былі розныя пункты погляду". На яго думку, тэхналогія правядзеньня экзаменаў у новых умовах не да канца распрацавана. Можна было б зрабіць усё інакш, напрыклад, заняцца праверкай пасьля завяршэньня экзаменаў,а калі б былі сігналы аб незаконным паступленьні ў інстытут каго-небудзь, то разарбацца і з гэтым пытаньнем.

**А.ДУК**

# СУМЕЖЖА

## ШТУЧНЫ ЧАРНОБЫЛЬ У ШЧУЧЫНЕ

**6 ліпеня з КПП "Брэст" польскія памежнікі вярнулі партыю адходаў меднага лому з завода "Аўтапровад", якая накіроўвалася ў Славакію, з прычыны павышанай радыяцыі. Пяць наступных дзён безгаспадарчы метал з радыяцыйным фонам ляжаў на тэрыторыі завода.**

"Як метал з радыяцыйным фонам трапіў на завод? Чаму яго ніхто не праверыў? Ці не пацярпелі ад гэтага мясцовыя жыхары? Хто панясе адказнасьць за безгаспадарчасьць? Які далейшы лёс небясьпечнага груза?" - гэтыя пытаньні не даюць спакою жыхарам Шчучына.

Нам удалося высьветліць, што медны лом завод "Аўтапровад" скупляе ў многіх камерцыйных і дзяржаўных фірм Беларусі для яго далейшай перапрацоўкі ў катанку. Хто канкрэтна здаў метал з павышанай радыяцыяй, пакуль невядома. Аднак са слоў кладаўшчыцы завода, ён паступіў з Лідзкага таварыства з абмежаванай адказнасьцю "Баярд". У сувязі з тым, што інструкцыя аб прыёмцы нехарчовых тавараў не прадугледжвае іх праверку на радыёактыўную забруджанасьць, лом на радыяцыю не правяраўся...

Пасьля таго, як машына з радыяцыйным ломам вярнулася ў Шчучын, кіраўніцтва завода зьвярнулася ў абласны штаб грамадзянскай абароны (які, дарэчы, прадэманстраваў сваю поўную недзеяздольнасьць). Толькі 14(!) ліпеня былі прыняты меры: нарэшце, пасьля доўгіх перамоваў у Шчучын прыбылі спецыялісты па грамадзянскай абароне. Агледзеўшы лом і зрабіўшы замеры, яны жахнуліся - узровень радыяцыі сягануў 1000, а ў асобных мейсцах 2000 мкр/гадз. Зразумела, што выкарыстоўваць гэтыя радыяцыйныя адкіды немагчыма. Падпісаны акт на іх пахаваньне. Гэта прынясе заводу больш чым мільярдныя страты.

Усе наступныя дні радыяцыйны метал пад пільнай аховай міліцыі знаходзіўся на тэрыторыі вайсковай часткі.

Нас запэўнілі, што на здароўе шчучынцаў гэты прыкры інцыдэнт не паўплывае. Хочацца верыць. А наконт адказнасьці за безгаспадарчасьць... Пракуратура праводзіць праверку. Аказваецца, нашае гуманнае заканадаўства адказнасьці за падобную халатнасьць не прадугледжвае. Значыць, хутчэй за ўсё, вінаватых ня будзе...

**Ала БІБІКАВА**

## ЗВАРОТ ДА «ТОВАРИЩА ЛУКАШЕНКИ-ПРЕЗИДЕНТА»

Спадар прэзідэнт! Вы лічыце, што у вас "очень красивый русский язык". Мы радзім вам засунуць ваш язык вашаму "очень уважаемому господину Ельцыну" туды, дзе належыць, а нам застаўце наш, як вы называеце "хамский неразвитый язык" ужываць і ганарыцца ім, бо лепшай мовы няма ў сьвеце (радзім вам навучыцца, будучы прэзідэнтам). А вашаму "русскому языку" разам з вамі, ня будзе мейсца ў нашай вольнай краіне, і паверце, "дорогой товарищ президэнт", што так і будзе!

Жыве Беларусь!

**КРАЁВЫ ШТАБ БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА ФРОНТУ Ў АЎСТРАЛІІ.**
**Кіраўнік БВФ сп. Алег ШНЕК.**
**Мельбурн.**

## УШАНУЕМ ПАМЯЦЬ СЬВЯТАРА-МУЧАНІКА

**9 лістапада 1941 года паміж Старым і Новым Барысавам гестапаўцы расстралялі сьвятара Генрыха Глябовіча, які прыехаў сюды з Вільні па запрашэньню мясцовых вернікаў. Расстралялі за тое, што прыбыў сюды без дазволу нямецкай улады, што ў сваім казаньні асьмеліўся гаварыць пра непаслушэнства тым, хто мае Бога ў сэрцы, гэта значыць маральна санкцыянаваў супраціўленьне фашысцкаму таталітарнаму рэжыму, таталітарызму ўвогуле.**

Хто ж такі Генрых Глябовіч? Ён - наш зямляк, нарадзіўся ў Горадні ў 1904 г. У 1927 г. закончыў у Вільні Духоўную семінарыю. Затым вучыўся ў рымскім універсітэце Ангелікум, у 1929 г. абараніў там доктарскую дысертацыю па філасофіі. У 1932 г. стаў у Любліне доктарам тэалогіі. Вярнуўшыся ў Вільню, стаў намесьнікам прафесара на тэалагічным факультэце славутага універсітэта імя Стэфана Баторыя, адначасова ўзначальваў парафію ў Троках.

Ксёндз Генрых Глябовіч цешыўся вялікай папулярнасьцю сярод віленскай студэнцкай моладзі - палякаў, беларусаў, літоўцаў. Прафесар Леан Брадоўскі слушна называе яго "душпастырам трох народаў" ("Каляндар Палатынскі". Варшава, 1991). У сваіх казаньнях, кнігах, выступленьнях па радыё Генрых Глябовіч сьцьвярджаў, што "грамадзкае зло спараджае ланцуговую рэакцыю", што "змагаючыся з Богам і ня любячы свой народ", чалавек дэгуманізуецца, перастае любіць і сваю айчыну. Гуманізм Генрыха Глябовіча быў актыўны, страсны. 3 мая 1941 г. ён выступіў у Вільні, у касьцёле св. Ежага з палымяным казаньнем перад студэнцкай моладзю, заклікаў яе да супраціўленьня абставінам, якія "з вольнага і гордага чалавека робяць карла, блазна і раба". У Глябовіча не было "нянавісьці ні да воднага народа, любіў ён Польшчу, меў павагу да вялікай Расіі, але таксама і да малых нацыяў - такіх, як Літва ці Беларусь".

А праз паўгода Генрых Глябовіч прыняў у лесе, над берагам Беразіны, мучаніцкую сьмерць з рукі акупанта.

Сёньня душпастырства і навукоўцы трох суседніх народаў пачынаюць стараньні па ўвекавечаньні памяці нашага земляка. У г.Влацлавэк (Польшча) у 1992 г. узьнікла спецыяльная камісія па яго кананізацыі, далучэньні да ліку сьвятых. Там жа выдадзена паштоўка са зьвернутай да яго малітвай. У камітэце сяброў Літвы, які ўзначальвае праф. Л.Брадоўскі, нарадзілася задума восеньню гэтага года паставіць на месцы мучаніцкай сьмерці святара мемарыяльны крыж з надпісам на беларускай, літоўскай і польскай мовах. І гэтая ідэя варта ўсялякай духоўнай і матэрыяльнай падтрымкі.

**Адам МАЛЬДЗІС**
**Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**

## УКРАІНА

**КІЕЎ**

Падчас падзей 18 ліпеня ў Кіеве "улада адкрыта выступіла супраць свайго народа". Так лічаць аўтары заявы, прысьвечанай сутыкненьню ўдзельнікаў пахаваньня Патрыярха Уладзіміра з сьпецпадразьдзяленьнямі МУС Украіны. Яе падпісалі прадстаўнікі палітычных партый і грамадзка-палітычных арганізацый краіны. "Вышэйшая ўлада Украіны, сілавыя ведамствы ... заклеймавалі сябе ў вачах украінскага грамадзтва і сусьветнай супольнасьці крывёй бязьвінных ахвяр" - сцьвярджаюць яны.

Аўтары заявы запатрабавалі ад прэзідэнта і ураду Украіны "аб'явіць Дзень смутку ў сувязі з трагічнымі падзеямі падчас пахаваньня Сьвяцейшага Патрыярха Уладзіміра", выявіць усіх арыштаваных удзельнікаў пахаваньня, "прыняць меры па выяўленьню і пакараньню ўсіх службовых асоб, вінаватых у злачынствах супраць удзельнікаў мірнай жалобнай працэсіі, а таксама расфармiраваць сьпецпадразьдзяленьні МУС Украіны і "перагледзець бюджэт МУС у бок скарачэньня з перадачай вызваліўшыхся сродкаў для дапамогі войскоўцам малодшых афіцэрскіх званьняў". Акрамя таго, падпісаўшыя заяву запатрабавалі даць народным дэпутатам Украіны - удзельнікам пахавальнай працэсіі "прамы эфір на радыё і тэлебачаньні для праўдзівага асьвятленьня падзей". Аўтары дакумента лічаць, што прах Патрыярха Уладзіміра павінен быць за кошт дзяржавы перазахаваны ў месцы, вызначаным Сьвяшчэнным Сінодам Украінскай Праваслаўнай царквы кіеўскага Патрыярхату. На іх думку, украінскі ўрад павінен кампенсаваць матэрыяльныя страты, панесеныя пацярпелымі, а таксама "вярнуць украінскім нацыянальным царквам сьвятыні украінскага народу".

* * *

"Толькі 6% кіяўлян падтрымліваюць дзеяньні ўлад падчас падзей на Сафійскай плошчы 18 ліпеня", - указваецца ў выніках сацыялагічнага апытаньня, праведзенага сацыёлагамі цэнтра "Дэмакратычная ініцыятыва". Згодна яго вынікам, 54% жыхароў Кіева асуджаюць дзеяньні ўлад "як незаконныя і недэмакратычныя". 30 працэнтаў кіяўлян перакананы, што Патрыярха Уладзіміра трэба пахаваць у Сафіі Кіеўскай, 17% - на Байкавых могілках, а 8% лічаць, што "трэба шукаць кампрамісны варыянт".

Апытаньне таксама паказала рост колькасьці людзей, якія адносяць сябе да Украінскай Праваслаўнай царквы Кіеўскага экзархата (48% апытаных). Толькі 4% жыхароў сталіцы Украіны лічаць сябе прыхільнікамі Украінскай праваслаўнай царквы, былы экзархат Рускай праваслаўнай царквы. 8% адносяць сябе да прыхільнікаў Рускай праваслаўнай царквы. Па 4% складаюць прыхільнікі Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і пратэстанцкіх канфесій, 2% - грэка-католікі.

(Э.-Х.)

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

**У Вільні створана Таварыства самакіраваньняў Летувы.**

Як вынікае з ягонага статуту, яно будзе рэалізоўваць прынцыпы Эўрапейскай хартыі тэрытарыяльнага самакіраваньня і ўдзельнічаць у па́драхтоўцы і ўдасканаленьні базы самакіраваньня, а таксама сачыць, як гэтая карта рэалізуецца.

***

**Летувіскі саюз нарадоўцаў запрапанаваў ураду зьмяніць сістэму фінансаваньня вышэйшых школаў.**

Нарадоўцы лічаць, што належыць дбаць аб тым, каб са сродкаў дзяржаўнага бюджэту, прызначаных на вышэйшую адукацыю, маглі скарыстаць перадусім тыя, хто сапраўды хоча і можа атрымаць гэтую адукацыю.

***

**Прадстаўнікі расейскай Думы і камітэт да справаў кантактаў з расейцамі за мяжой дасланы пратэст у амбасаду Летувіскай Рэспублікі ў Маскве.**

Гэта - рэакцыя на "праявы дыскрымінацыі членаў парламанту Расеі з летувіскага боку". Амбасада Летувы ў Маскве адмовіла ў выдачы ўяздных візаў у Летуву дэпутатам Думы. Мэтай запланаванага візіту павінна было быць знаёмства з праблемамі расейскамоўнага насельніцтва ў Вісагінасе.

"Імкнучыся да інтэграцыі з Эўрапейскім Саюзам, мы не павінны стаць краінай транзіту непажаданых асобаў", - заявіў прэм'ер-міністр Адольфас Шляжавічус. Урад абмяркаваў падставовыя прынцыпы аховы марской гаспадарчай і тэрытарыяльнай граніцы. Узгоднена, што марскую тэрытарыяльную паласу будзе кантраляваць паліцыя пры супрацоўніцтве з міністэрствам аховы краю, а фізічную - толькі апошняя.

***

**У Вільні адбылася павятовая канферэнцыя Дэмакратычнай партыі працы Летувы.**

Гаварылася на ёй перадусім пра справы, якія будуць абмяркоўваця на рэспубліканскай канферэнцыі кіруючай партыі. А запланавана яна на верасень-кастрычнік бягучага года.

***

**У калегіі Міністэрства сельскай гаспадаркі прайшла дыскусія па праграме сацыяльнага разьвіцьця і працаўладкаваньня жыхароў вёскі.**

Прадстаўнік праграмы праф. Е.Багданавічус зазначыў, што ў апошнія гады значна зьнізіўся ўзровень жыцьця большасьці жыхароў вёскі. У вёсцы бяднее значна больш семьяў, чым у горадзе, розьніца іх грашовых даходаў па-ранейшаму павялічваецца.

Падлікі і аналіз паказваюць, што ў 2000 годзе жыхароў вёскі без працы пераваліць за 100 тысяч, што складзе звыш 20% вытворчаактыўных жыхароў краіны.

**У.СТРУМІЛА.**

## РАСЕЯ

**МАСКВА**

"Генеральная Пракуратура Расеі мае намер разьвязаць масавы тэрор супраць свабоднай прэсы і свабоднай думкі", - гаворыцца ў заяве Цэнтральнага каардынацыйнага савету Дэмакратычнага Саюзу Расеі. Сваю заяву ЦКС ДСР прыняў у сувязі з выклікам у Краснапрэсьненскую пракуратуру членаў гэткай партыі Валерыі Навадворскай, Мікалая Злотніка, а таксама дырэктара Агенцтва навін і інфармацыі. Іх дапросяць як сьведак па "справе Навадворскай наконт артыкулаў двухгадовай даўнасьці". На думку аўтараў заявы, гэта сьведчыць пра тое, што тэрарыстычныя акты пачаліся ў Маскве, але зусім не чачэнцы ў гэтым вінаваты".

* * *

У выніку выбуху 23 ліпеня трох адмысловых прыстасаваньняў цалкам выгарэў двухпавярховы будынак дзіцячага клуба.

Пажарныя прыехалі праз дзесяць хвілін пасьля выкліку. Па іх словах, полымя пасьля выбуху ўздымалася да вышыні пятага паверха.

Работніца клуба, якая адмовілася сябе назваць, паведаміла, што кіраўніцтва разьмешчанага непадалёк кааператыва "Эста" неаднаразова заяўляла аб сваіх прэтэнзіях на зямельны участак, які займаў ўзарваны будынак. У ім знаходзіліся тэатральны і музычны гурткі, дзіцячы хор, аркестр і ансамбль "Блок-флейт".

* * *

"НЕ ядзерным выпрабаваньням!", - пад такім лозунгам 24 ліпеня прайшоў пікет міжнароднай прыродаахоўнай арганізацыі "Greenpeace" перад будынкам пасольства Францыі.

Пікетчыкі пратэставалі супраць рашэньня прэзідэнта Францыі Жака Шырака аб аднаўленьні ядзерных выпрабаваньняў. З пачатку верасьня Францыя мае намер правесьці восем ядзерных выбухаў. На думку ўдзельнікаў акцыі, такое рашэньне можа прывесьці да "новага вітка гонкі ўзбраеньняў". Пікетчыкі зьвярнуліся да пасла Францыі ў Расеі з просьбай данесьці іх думку да кіраўніцтва Францыі.

**АРОЛ**

"Прызнаць ахвярамі палітычных рэпрэсій сьвятароў, асуджаных у 20-30 гады за супраціўленьне канфіскацыі царкоўных каштоўнасьцяў", з такой просьбай зьвярнуліся да старшыні камісіі па рэабілітацыі пры прэзідэнце Расеі А.Якаўлева члены Арлоўскага царкоўна-археалагічнага таварыства. Па сёньняшні дзень такія сьвятары прызнаюцца крымінальнымі злачынцамі і не падлягаюць рэабілітацыі.

Арлоўскае царкоўна-археалагічнае таварыства існуе з XIX стагоддзя. Пасьля закрыцьця ў 1924 годзе яго адрадзілі ў 1994 годзе.

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ**

Вяртаньня ўкладаў, выплаты кампенсацый падманутым укладчыкам і пакараньня кіраўніцтва недобрасумленных фінансавых кампаній запатрабавалі ўдзельнікі мітынга ўкладчыкаў АТ "Гермесфінансы", які адбыўся ля Марынскага палаца. Прадстаўнікі арганізацый пракамуністычнай накіраванасьці ня ўдзельнічалі ў акцыі.

(Э.-Х.)



## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**ЗГВАЛТАВАНА І ЗАБІТА**

Жудаснае забойства зьдзейсьнена ў Лідзе. Пасьля звароту ў аддзел унутраных спраў гаррайвыканкаму жыхаркі райцэнтра і паведамленьня, што дахаты не вярнулася яе дачка, 1989 года нараджэньня, супрацоўнікі міліцыі заняліся яе пошукам. Праз некаторы час у кустарніку, непадалёк ад інтэрната, дзе жыла дзяўчынка, быў знойдзены яе труп з прыкметамі згвалтаваньня і задушэньня.

**ВЫНІК СВАРКІ - СЬМЕРЦЬ**

Непрацуючая жыхарка Горадні ў сваёй кватэры, пасварыўшыся з сужыцелькай былога мужа, прычыніла ёй пранікальнае раненьне грудной клеткі з пашкоджаньнем сасудаў сэрца. Гэта прывяло да таго, што жанчына памерла ў рэанімацыі, не прыходзячы ў прытомнасьць. На месцы здарэньня знойдзены кухонны нож.

**ГВАЛТ**

Знаёмства ў бары з двумя невядомымі хлопцамі ледзь ня скончылася для гарадзенскай дзяўчыны трагедыяй. Спачатку яны прыставалі да яе, а затым прымусова завялі да дом на вуліцы Даватара і спрабавалі згвалтаваць. На шчасьце, да месца здарэньня наблізілася машына, гул якой спужаў злаўмысьнікаў, і яны ўцяклі.

**ДЗЬВЕРЫ ТРЭБА ЗАЧЫНЯЦЬ**

Менавіта адчыненыя дзьверы дазволілі двум невядомым беспершкодна трапіць у кватэру жыхаркі абласнога цэнтра Г. І яны, пагражаючы пісталетам, забралі ў яе 100 долараў ЗША, 65 тысяч рублёў і зьнiклі.

**ПІЦЬ З НЕВЯДОМЫМІ НЕБЯСЬПЕЧНА**

Падчас распіцьця моцных напояў з невядомымі ў гаражы жыхара Горадні ў вёсцы Малышчына ўзьнікла бойка. Пакуль ён бегаў тэлефанаваць у міліцыю, з гаража была адгнана яго аўтамашына "Мерсэдэс-300". Яе потым знайшлі ў той жа вёсцы, але з пашкоджаньнем багажніка, пабітым заднім шклом. Акрамя таго, з аўтамабіля скрадзена аўтамагнітола "Піянер", 102 долары ЗША і 380 тысяч рублёў.

**ПЕНЬСІЯНЕР І ПАТРОНЫ**

На рэчавым рынку ў Лідзе затрыманы мясцовы пеньсіянер. У яго знойдзена і канфіскавана 250 патронаў калібра 5,6 мм для стральбы з дробнакалібернай вінтоўкі.

**НЯМА АХОВЫ - ЁСЬЦЬ КРАДЗЯЖЫ**

З неахоўваемай атпэкі ў вёсцы Забалаць Воранаўскага раёну шляхам узлому дзьвярэй зьдзейсьнены крадзёж медыкаментаў. Памер страт падлічваецца.

* * *

А ў вёсцы Квасоўка Гарадзенскага раёну непрацуючы, раней асуджаны жыхар Горадні і вучань мясцовай школы скралі з прамтаварнай крамы наручныя гадзіньнікі, адэкалон і іншыя тавары на суму звыш 2 мільёнаў рублёў.

**"НА ДУРНЯ НЕ ПАТРЭБНЫ НОЖ"**

Не аднойчы ў розных кутках Гарадзеншчыны фіксаваліся выпадкі махлярства.

У Лідзе падчас гаданьня невядомая цыганка завалодала 20 доларамі і залатымі вырабамі мясцовай жыхаркі.

* * *

У Горадні яшчэ дзьве жанчыны па аналагічнай прычыне з-за сваёй даверлівасьці разьвіталіся з двумя заручальнымі кольцамі, залатымі завушніцамі і 60 тысячамі рублёў.

* * *

А ў Ваўкавыску мясцовы жыхар быў вымушаны зьвярнуцца ў міліцыю, бо невядомы падманным шляхам завалодаў роварам яго дачкі. У гэтым жа горадзе невядомыя пад маркай гаданьня завалодалі залатым ланцужком з кулонам, завушніцай і 5 доларамі, якія належалі навучэнцы Баранавіцкага медвучылішча.

**ПАРУШЭНЬНЕ КАШТАВАЛА ЖЫЦЬЦЯ**

Працуючы на зернатоку ў вёсцы Жырмуны жыхар вёскі Скавароды Воранаўскага раёну парушыў патрабаваньні тэхнікі бясьпекі, зьняўшы абаронныя агароджы і спусьціўся ў завальную яму, дзе быў засыпаны зернем і задыхнуўся.

**А.ДУК**



**Усё часьцей і часьцей у Горадні можна сустрэць коз, што пасуцца на газонах, у парках. Гарадзенцы купляюць гэтых жывёл, каб мець танныя малочныя прадукты.**

**Фатаграфаваў Ільля БАРЫСАЎ.**

## ПАД ЭГІДАЙ ТВЛ

**Бадай кожны сучасьнік усьведамляе, што мы жывем зусім не ў паэтычным сьвеце. Недасканалая рэчаіснасьць урываецца, карэктуе, а часам і калечыць жыцьцё творчых людзей. Асабліва тых, хто вырашыў займацца мастацтвам дзеля мастацтва. Аскетызм - зьява сёньня надзвычай рэдкая, а таму каштоўная. Гэта таксама, як і самаахвярнасьць. Падобныя якасьці можна адшукаць хіба што ў паэзіі, якая выдаецца незалежным шляхам дзякуючы Таварыству Вольных Літаратараў (ТВЛ).**

Менавіта гэта суполка заснавала ў 1992-м годзе серыю "Паэзія новай генерацыі" і за няпоўныя тры гады выпусьціла ў сьвет дванаццаць арыгінальных зборнікаў. Гэта "Зямля Ханаан" і "Зваротныя правакацыі" Славаміра Адамовіча, "Крылыператварацца ў карэньні" і "Разьвітаньне з Танталам" Алеся Аркуша, "Водар цела" і "Твар Тутанхамона" Юрыя Гуменюка, "Калідор" Лявона Вольскага, "Рысасловы" Людкі Сільновай, "Блюз каралеўскае кухні" Леры Сом, "Саната Арганата" Ігара Сідарука, "Праз галерэю" Сяргея Мінскевіча і "Пазамежнасьць" Анжаліны Дабравольскай. Апошнія дзьве кніжачкі пабачылі сьвет зусім нядаўна і, спадзяюся, будуць мець такі ж посьпех сярод аматараў прыгожага пісьменства, як парярэднія зборнікі.

Таварыства Вольных Літаратараў плануе выдаць яшчэ некалькі томікаў паэзіі (сярод іх зборнікі гарадзенца Едруся Мазько і заўчасна памерлага паэта з Навагрудчыны Андрэя Пяткевіча), каб завяршыць серыю "Паэзія новай генерацыі" і пачаць рэалізацыю іншых праектаў. Так, напрыклад, другі нумар незалежнага літаратурна-мастацкага альманаха "Калосьсе" зьявіцца ўжо ў кастрычніку - лістападзе, будзе мець скандальны розгалас і адразу стане рарытэтам. Акрамя гэтага ТВЛаўцы мяркуюць правесьці ў Горадні, Менску і Полацку шэраг культурных імпрэз, бо лічаць, што паэзія дапамагае пераадольваць цяжкасьці і цяжкае жыцьцё.

**Людвік САРОКА**

## НАПЕРАДЗЕ ШМАТ ВЫХАДНЫХ

**Калі вы правялі выхадны цікава і зьмястоўна, з дарагімі вам людзьмі,то й панядзелак - дзень цяжкі - не падаецца вам такім ужо і шэрым.**

У гэтым пераканаліся супрацоўнікі Шчучынскага РАУС, якія нядаўна разам з сем'ямі выдатна адпачылі на беразе Котры ва ўрочышчы "Шчанец".

Было весела і цікава. Сур'ёзныя, вечна заклапочаныя сьледчыя, паставыя, участковыя пераапранууўшыся ў шорты і футболкі,ператвараліся ў вясёлых разьняволеных людзей. Фантазіям і выдумкам не было канца. Спартыўны азарт панаваў у сэрцах і на імправізаваных пляцоўках.

З захапленьнем назіралі юныя ўдзельнікі фізкультурнага сьвята, як іх таты ганялі футбольны мяч. Усе разам перацягвалі канат, удзельнічалі ў сямейнай эстафеце, спаборнічалі ў плаваньні і стральбе з пнеўматычнай зброі, радаваліся перамогам.

Лепшымі футбалістамі прызнаны ўдзельнікі каманды міліцыі грамадзянскага правапарадку. У перацягваньні канату перамагла каманда службы аховы. Лепшымі ў сямейнай эстафеце былі Пашукі, Зубелі і Сяргеі.

Цудоўная прырода, касьцёр, музыка, жарты, сьмех, плячо сябра, дарагія вочы каханага чалавека, цікавыя размовы, вясёлыя гульні, смачны абед - што яшчэ трэба для паўнацэннага адпачынку?

**А.АЛАВА**

## САМ САБЕ ЛЕКАР

**Бульба чылійская, або клубняносная (Solanum tuberosum) - шматгадовая расьліна сямейства пасьлёнавых.**

**Радзіма бульбы - Паўднёвая Амерыка, адкуль яна трапіла спачатку ў Гішпанію, потым у Італію, Францыю, Галандыю і іншыя краіны Эўропы. У Расею бульба папала ў пачатку XVIII ст. з Галандыі. У другой палове XVIII стагоддзя бульба распаўсюдзілася па ўсёй еўрапейскай частцы Расеі. У сябе на радзіме яна лічыцца шматгадовай культурай. У Эўропе, кліматычныя ўмовы якой для гэтай расьліны занадта суровыя, яна вырошчваецца як аднагадовая расьліна.**

Бульба - культура ўніверсальная. Яна ідзе і на харчовыя, і кармавыя, і тэхнічныя мэты. Яе харчовыя якасьці заключаюцца ў высокай каларыйнасьці. Нездарма бульбу называюць другім хлебам. Па каларыйнасьці яна ў два разы пераўвышае моркву і ў тры разы белакачанную капусту. Цэніцца яна і тым, што зьяўляецца крыніцай вугляводаў, бялкоў і вітаміна С. Акрамя таго, у бульбе зьмяшчаюцца мінеральныя солі натрыя, кальцыя, жалеза, ёду, магнія, калія, серы, фосфара і другіх рэчываў, вельмі неабходных для нармальнай жыцьцядзейнасьці чалавека.

Бульба - каштоўная лекавая расьліна ў народнай медыцыне. Вараная бульба валодае мачагонным і лёгкім слабіцельным дзеяньнем. Сьвежавыціснуты сок зьніжае кіслотнасьць страўніка, паляпшае работу кішэчніка, здымае болі ў страўніку, зьяўляецца супрацьзапаленчым сродкам.

Лічаць, што сок бульбы, як супрацьзапаленчы прэпарат, хутка загойвае раны, язву страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

Сок, або кашка з бульбы, дае станоўчы рэзультат пры апёках: 3-4 кампрэсы з сока ці кашкі - і страшэнныя вынікі вашай ці чыёй-небудзь неасьцярожнасьці як рукой здыме.

Вельмі эфектыўная вараная бульба "у мундзірах". Яе трэба растаўчы, палажыць на ільняную анучку і прылажыць да горла. Пры зацяжных бранхітах прыкладваць да грудзей. Працэдуру выконваюць перад сном і бульбу трымаюць 20-25 хвілін (пакуль не астыгне). За 3-4 такія працэдуры пазбавіцеся ад хваробы.

Дзеля больш эфектыўнага лячэньня вышэйзгаданую працэдуру можна ўскладніць. У каструлю з закіпеўшай вадой пакласьці бульбу, зварыць "у мундзірах", зьліць ваду і паставіць каструлю пад коўдру. Там адкрыць накрыўку і на працягу 10-15 хвілін дыхаць парай з бульбы.

Сок са сьвежай бульбы п'юць пры запоры (1/4 - 1/2 шклянки).

Калі вы за тыдзень зьелі 1,2 - 1,5 кг бульбы, гарантавана, што з арганізма выдалена 0,02 мг сьвінцу, затое вы абагаціліся вітамінам С. Вучоныя сьцьвярджаюць, што 10 кг бялка (губарына) бульбы могуць замяніць 7 кг. мяса.

Бульба - крыніца мінеральных рэчываў, якія неабходны для нейтралізацыі кіслотнасьці. Таму людзям, пакутуючым ад павышанай кіслотнасьці, трэба піць сок са сьвежай бульбы. Але трэба падкрэсьліць, што карысныя рэчывы зьмяняюцца ў залежнасьці ад сорту расьліны, кліматычных умоў, тэхналогіі апрацоўкі і шмат якіх іншых фактараў.

У лячебнай практыцы бульбу выкарыстоўваюць як мачагонны сродак пры захворваньнях нырак. Бульбяны сок п'юць пры гіпертаніі і язьве страўніка. Сок з маладых клубняў карысны пры захворваньні шчытападобнай залозы.

Гастрыт - запаленьне сьлізістай абалонкі страўніка, з адначасовым парушэньнем сакраторнай і маторнай функцый. Людзям з высокай кіслотнасьцю страўнікавага сока, акрамя сока бульбы, раім прымаць 3 разы ў дзень мёд, распушчаны ў цёплай кіпячонай вадзе. З паніжанай кіслотнасьцю - мёд, распушчаны ў халоднай крынічнай вадзе, узятай раніцай (4-5 гадз.). Мёд неабходна прымаць ня больш 150 г. Курс лячэньня - да 2-х месяцаў. Абавязкова экстрасэнсорнае ўздзеяньне на арганізм (да 10 сеансаў).

Пры язьве страўніка і дванаццаціперснай кішкі, якім спадарожнічае гастрыт з павышанай кіслотнасьцю страўнікавага сока, рэкамендуем піць сьвежапрыгатаваны сок бульбы - па 3/4 шклянкі нашча. Пасьля прыёму сродка належыць паводзіць сябе пасіўна, сядзець або ляжаць 25-30 хвілін, потым можна прымаць ежу.

***

Абабраную бульбу нельга пакідаць надоўна ў вадзе, бо яна губляе пажыўныя рэчывы.

*

Ачышчаную бульбу соляць у пачатку варкі, каб паменшыць страты мінеральных рэчываў.

*

Пры варцы бульбы "у мундзірах" у ваду трэба дадаць некалькі кропель воцату, або 0,5 чайнай лыжкі солі на 1 кг. бульбы - лупіна будзе цэлай.

*

Бульба "у мундзірах" будзе лепей чысьціцца, калі яе адразу пасьля варкі на кароткі час апусьціць у халодную ваду.

*

Маладую бульбу можна хутка пачысьціць, калі яе на 15-20 хвілін палажыць у халодную ваду.

*

Гатаваць бульбу трэба на ўмераным агні, каб крухмал разбухаў раўнамерна па ўсю глыбіню клубня.

**Іван ДЗЯДОК.**

Гарадзенская вуніяцкая суполка глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай сьмерці Юрыя Слабажаніна і выказвае шчырыя спачуваньні родным і блізкім нябожчыка.

## СПОРТ

## ЧАРГОВЫЯ «ТАРПЕДЫ» У БОК ГАРАДЗЕНСКАГА ФУТБОЛУ

Працягваюць зьдзеквацца над сваімі заўзятарамі футбалісты "Нёмана". 25 ліпеня іх "ахвярамі" сталі 600 найбольш адданых аматараў гэтай гульні, якія прыйшлі на стадыён, а таксама тэлеглядачы, якія дзякуючы абласной тэлевізіі ўпершыню (няхай і ў запісе) мелі магчымасьць паглядзець два таймы гульні "Нёмана" супраць дэбютанта лігі - сталічнай "Атакі-Ауры". Сустрэча засьведчыла поўную безадпаможнасьць гарадзенскіх футбалістаў перад лёгкасьцю "атакаў" "Ауры", на вастрыні якой зноў зазьзяў талент Ігара Гурыновіча, які вярнуўся з Аўстрыіі. 0 - 4 і каментары, здаецца, не патрэбныя.

Няўдалым варта прызнаць і вынік гульні ў Лідзе, дзе мясцовы "Абутнік" пры поўнай сваёй перавазе так і ня здолеў перамагчы менскае "Тарпеда", згуляўшы ў нічыю 1-1. Між тым, астатнія лідары турнірнай табліцы свае "дзяжурныя перамогі атрымалі, прычым у гульнях на выездзе: менскае "Дынама" над "Шыньнікам 3-0; іх "93-я" аднаклубнікі над магілёўскім "Тарпеда" 3-1; мазырскі МВКЦ над "Шахцёрам" 3-1. З перамогі над "Ведрычам" (3-1) стартаваў у чэмпіянаце "Днепр" "Дынама" з Берасьця ва ўпартай барацьбе перайграла "Маладэчна" 3-2, а срэбраны прызёр мінулага чэмпіяната "Дзьвіна" згубіў ачкі, зрабіўшы нулявую нічыю з ледзь "дыхаючым" "Бабруйскам".

Сёньня адбудуцца гульні V тура. "Нёман" дома сустрэнецца з "Бабруйскам", а "Абутнік" прыймае магілёўскае "Тарпеда".

**Вітаўт РУДНІК**



## «ФУТБОЛЬНЫ МЕРЫДЫЯН» СЛОНІМА

**На пачатку жніўня у Слоніме павінен пабачыць сьвет другі нумар першай у Заходняй Беларусі рэгіянальнай спартовай газеты "Футбольны мерыдыян".**

Выданьне мае намер кампенсаваць аматарам гэтай гульні недахоп інфармацыі аб жыцьці камандаў рэгіёну, а таксама зьмяшчаць цікавыя матэрыялы аб замежным футболе.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**


**"ПАГОНЯ"**

**Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.**

**Заснавальнік:**
**культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".**

**Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**
**E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by**
**Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.**
**Пры перадруку спасылка абавязкова.**
**Індэкс 63124.**
**Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.**

Заказ 3241
Наклад 5936 паасобнікаў.
Нумар падпісаны да друку 26.07.95, у 16.00